# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты СВАБОДА
Наклад 32.480
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 23 верасня 1997 г. № 105 Кошт свабодны

## Першая паездка пасла – да хворых дзяцей



На здымку: Дэніэл Спекхард з жонкай і дачкой сярод маленькіх пацыентаў клінікі.

**У мінулую пятніцу пасол ЗША Дэніэл Спекхард, ягоная жонка доктар Энн Спекхард і дачка Джэсіка наведалі клініку інстытута радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне, што пад Мінскам.**

Пасол Спекхард цікавіўся чарнобыльскімі праблемамі і паабяцаў падтрымаць супрацоўніцтва беларускіх і амерыканскіх вучоных у гэтай сферы. На працягу трох гадоў на базе інстытута працягваецца ажыццяўленне праекту па вывучэнні прычынаў росту захворванняў на рак шчытападобнай залозы. Гэты праект, які разлічаны на 20 гадоў, фінансуе Кангрэс ЗША. Дэніэл Спекхард мае намер паспрыяць клініцы гуманітарнай дапамогай.

*(Матэрыял з першай прэс-канферэнцыі амерыканскага пасла чытайце на стар. 2)*

## Прэзідэнт ляціць у Дэлі праз Алма-Ату

### *Сёння пачынаецца візіт беларускага прэзідэнта ў Казахстан і Індыю*

Акрамя перамоваў з калегам-інтэгратарам Назарбаевым, плануецца дамовіцца аб пастаўках беларускай тэхнікі ў Казахстан. Прадукцыю МАЗа, «Гомсельмаша», МТЗ беларусы збіраюцца паставіць казахскім сябрам у абмен на зерне. Аднак казахі хочуць атрымаць тэхніку на ўмовах крэдыту на два гады, у той час як Беларусь настойвае на меншым тэрміне. У звязку з гэтым можна прыгадаць, што Беларусь ужо аднойчы спрабавала атрымаць збожжа ў Казахстане (у абмен на працу нашых механізатараў), але казахі так і не выканалі тое пагадненне. Як бы і гэтым разам не здарылася тое самае.

У Індыі, акрамя падпісання шэрагу дамоваў, плануецца зрабіць рэкламу прадукцыі беларускага машынабудавання, калійных угнаенняў і іншых тавараў вытворчасці беларускіх гігантаў, у тым ліку і ваенна-тэхнічнага прызначэння. Беларускія чыноўнікі спадзяюцца, што дзякуючы візіту можна будзе знайсці збыт для прадукцыі нашых прадпрыемстваў. Праўда, папярэднія візіты ў краіны азіяцкага рэгіёну пакуль не прынеслі прыбыткаў беларускім прадпрыемствам, а толькі выдаткі падаткаплацельшчыкам (візіт — рэч дарагая).

**Ян ГАЛЕВІЧ**

## Беленькаму сапсавалі «мядовы месяц»

### *Атрымліваецца, што кожны тыдзень рэжым садзіць за краты кагосьці з палітычных актывістаў*

У мінулую пятніцу на 10 сутак пасадзілі Юрася Беленькага — намесніка старшыні БНФ. Яго абвінавацілі ў парушэнні прэзідэнцкага дэкрэта № 5 падчас святкавання Дня незалежнасці 27 ліпеня.

За намеснікам старшыні БНФ прыехалі раніцай дадому, адвезлі ў РАУС, а потым у Савецкі суд, дзе паказалі дазвол генпракурора А.Бажэлкі на прыцягненне былога дэпутата да адказнасці па адміністрацыйнай справе. У судзе Беленькаму не далі магчымасці скарыстацца паслугамі свайго адваката, адхілілі ягонае хадайніцтва аб заслухоўванні сведкаў і не забяспечылі вядзення слуханняў на беларускай мове. Аднак найбольшае здзіўленне выклікае вынік: 10 сутак зняволення, між тым як іншыя палітыкі, чые прозвішчы таксама стаялі пад заяўкай на правядзенне шэсця, атрымалі толькі грашовыя штрафы.

Цяжка патлумачыць, чаму суддзя Андрэй Ганчарык палічыў віну намесніка старшыні БНФ большай за астатніх. Як лічыць Ю.Беленькі, рашэнне прымалася ў іншым будынку. Былы дэпутат падазрае, што гэткім чынам было адрэагавана на навіну аб ягоным нядаўнім шлюбе. *«Мне вырашылі адпомсціць, сапсаваўшы мядовы месяц, але дарэмна: паўза ў ім толькі больш распаліць мае пачуцці да маладой жонкі»*, — заявіў Юрась Беленькі, стоячы перад міліцэйскім УАЗікам.

Дарэчы, гэтая машына чакала пад вокнамі суда ўвесь час, пакуль ішоў працэс. Няўжо міліцыянты па зорках здагадаліся, што чалавека, якога яны раніцай прывезлі ў суд, прыйдзецца везці адсюль у спецпрыёмнік?

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Гомель: свята ўдалося, але каштавала дорага

**У мінулыя выходныя Гомель адзначыў сваю 855-ю гадавіну, да якой быў прымеркаваны Першы міжнародны фестываль харэаграфічнага мастацтва «Сожскі карагод».**

Гомель сустрэў свята добраўпарадкаваным, чыстым і падноўленым. Гэта не дзіўна, бо на рэканструкцыю і рамонт сёлета было выдаткавана 60 млрд. рублёў. Большасць гэтых грошай атрымана ад прамысловых прадпрыемстваў горада. Яны ж сталі і галоўнымі спонсарамі «Сожскага карагоду», які абышоўся ў 4.5 млрд. рублёў. Найбольш «пацярпелі» ад святочных пабораў прадпрыемствы «Гомсельмаш», «Гомельдрэў», «Гомельшпалеры», а таксама вагонарамонтны завод і «Беларуснафта».

Фестываль сабраў 2.865 удзельнікаў і гасцей з 15 краін свету; на мове пластыкі і музыкі яны паспрабавалі выказаць імкненне чалавека да прыгажосці, святла і дабрыні. І гэта ім з дапамогай гомельцаў, якія ператварылі цэнтральную частку горада ў суцэльную канцэртную пляцоўку, з большага ўдалося.

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

## Палякі прагаласавалі за «Салідарнасць»

**У мінулую нядзелю ў Польшчы адбыліся парламенцкія выбары.**

На 560 месцаў у абедзвюх палатах парламента — Сейме і Сенаце — прэтэндавала 7.000 кандыдатаў.

Удзел у галасаванні прынялі каля 55% выбаршчыкаў. 153 выбарчыя ўчасткі знаходзіліся на польскіх караблях. Падчас кампаніі было створана 7 выбарчых камітэтаў нацыянальных меншасцяў — 6 нямецкіх і адзін беларускі.

У адрозненне ад папярэдняга парламента, які абіралі ў 1993 годзе, новы будзе больш зпалярызаваны: паводле папярэдніх дадзеных, найбольш — 32,4% галасоў — набрала правая групоўка Выбарчая Акцыя «Салідарнасць». Услед ідуць былыя камуністы з Саюза левых дэмакратаў — 26,6%. Ліберальная Унія Свабоды паставіла нечаканы рэкорд і набрала 15,2%.

Аграрная партыя Польскае народнае згуртаванне набрала ўдвая менш галасоў, чым на папярэдніх выбарах — каля 7%. Пятай партыяй, якая, мяркуючы па ўсім, трапіла ў парламент, стаў радыкальны антыкамуністычны Рух адбудовы Польшчы. Астатнія не здолелі набраць пяці працэнтаў галасоў, абавязковых, каб мець сваіх прадстаўнікоў у парламенце.

Лёс Уніі Працы, ад якой у Беластоку балатаваўся старшыня Беларускага саюзу Польшчы Яўген Вапа, пад вялікім пытаннем: усё вырашаюць долі працэнта. На папярэдніх выбарах у 1993 годзе гэтая партыя набрала больш за 7% галасоў.

Вынікі нядзельнага галасавання аказаліся крыху нечаканымі.



*На здымках: галасуюць манашкі; Лех Валэнса (крайні справа) і лідэры «Салідарнасці» радуюцца вынікам выбараў.*

Папярэднія апытанні давалі прыблізна аднолькавыя шанцы для Саюзу левых і для «Салідарнасці». Былыя камуністы, зрэшты, атрымалі цяпер на 8% галасоў больш, чым у 1993 г. Але тады яны былі на першым месцы, а цяпер іх абагналі правыя. Прычым на тых ранейшых выбарах «Салідарнасць» не здолела набраць патрэбнай колькасці галасоў, каб трапіць у парламент.

Такім чынам, на польскай палітычнай сцэне фармуюцца два моцныя палярныя блокі справа і злева пры моцным цэнтры. Тры асноўныя партыі будуць удзельнічаць у стварэнні новага ўрада і магчымыя дзве кааліцыі левацэнтрысцкая кааліцыя Саюзу левых дэмакратаў з Уніяй Свабоды, або правацэнтрысцкая кааліцыя «Салідарнасці» з той жа Уніяй Свабоды.

Кіраўнік Выбарчай Акцыі «Салідарнасці» Мар'ян Кшаклеўскі (якога год таму беларускія ўлады сілай выставілі з Беларусі), паабяцаў, што яны аддадуць шмат улады органам мясцовага самакіравання, прадпрымальнікам і нават сем'ям. Аднак ён заявіў, што пры стварэнні парламенцкай кааліцыі лінія «Салідарнасці» будзе асноўнай. Лідэры Уніі Свабоды, без якой «Салідарнасць» не зможа стварыць стабільнай кааліцыі, заявілі ў адказ на гэта, што палітычную праграму трэба ствараць супольна.

Гэта пытанне прынцыповае для лібералаў. Унія Свабоды выводзіць свае карані з даўняй «Салідарнасці», галоўныя лідары якой заклалі пасля 1989 года моцную ліберальную партыю. У той жа час істотныя змены ў посткамуністычным Саюзе левых дэмакратаў даюць падставы весці з ім перамовы, аднак у такім выпадку Унія Свабоды трапіць пад агонь вострай крытыкі: яе абвінавацяць у здрадзе ідэалам 1989 года.

Стваральнік былога прафсаюза «Салідарнасць», экс-прэзідэнт Польшчы Лех Валэнса галасаваў у Гданьску разам з жонкай і 18-гадовай дачкой Магдай, якая ўпершыню ўдзельнічала ў галасаванні. Цяперашні прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі галасаваў у Варшаве: яму з жонкай Ёлянтай давялося даволі доўга чакаць у чарзе, каб трапіць у кабіну для тайнага галасавання. Прэзідэнт сказаў, што выбарчая кампанія адбылася спакойна, што сведчыць пра развіццё ў Польшчы дэмакратыі. Цяпер Аляксандр Квасьнеўскі павінен назваць кандыдата на новага прэм'ер-міністра. Першае паседжанне парламента ён прызначыў на 20 кастрычніка.

Што датычыць галасавання палякаў за межамі Польшчы, дык у краінах Захаду яны аддалі свае галасы пераважна за «Салідарнасць». Гэтак жа прагаласавалі палякі ў Гродне, Вільні, Львове і Харкаве. У Мінску, Кіеве, Будапешце, Браціславе і ў Маскве большасць галасоў атрымаў Саюз левых дэмакратаў.

Афіцыйныя вынікі выбараў у Польшчы будуць абнародаваныя ў сераду альбо ў першай палове дня ў чацвер.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**
**Юрась ЗЯНКОВІЧ**

# На што і за што працуе наш настаўнік

Хіба ж дрэнна, калі вам дораць кветкі? Прычым даволі часта: у канцы траўня і жніўня, на пачатку кастрычніка, сакавіка і чэрвеня... Гэта безумоўны плюс. Але лепш бы плацілі грошы за выхаванне і навучанне чужых дзяцей, інача кажучы, за настаўніцкую працу.

Кветкі і грошы — зусім розныя рэчы: букеты настаўнікам прыносяць дзеці і бацькі, а грошы плаціць дзяржава.

## Затраты

Стаўка настаўніка сярэдняй школы складае 18 гадзінаў у тыдзень, у пачатковай школе (1—4 класы) — 20. Апроч непасрэднага правядзення ўрокаў, настаўнік траціць час на падрыхтоўку да заняткаў. Спрактыкаваны настаўнік упраўляецца хутчэй, але і яму часам даводзіцца затраціць некалькі гадзін, каб прадумаць і распрацаваць адмысловы ўрок. Бо сапраўдная задача не ў тым, каб апытаць вучняў па папярэдняй тэме і хуценька адбарабаніць новую. Кожнаму вучню павінна быць цікава, і трэба каб кожны быў загружаны пасільнай разумовай (ці разумова-фізічнай) работай.

Пераважная большасць бацькоў не могуць даць рады аднаму-двум дзецям дома. Чаму ж многія лічаць, што правесці ўрок для 25—40 вучняў у школе не праблема? Праблема, ды яшчэ якая! Яе вырашэнне патрабуе канцэнтрацыі разумовых, духоўных, фізічных магчымасцяў настаўніка. Кожныя 45 хвілін ён пераўвасабляецца адначасова ў драматурга, рэжысёра, акцёра, псіхолага, дрэсіроўшчыка... Настаўнік увесь час навідавоку з усімі сваімі вартасцямі і недахопамі — цудоўнай фігурай або не вельмі стройнымі нагамі, новай прычоскай або непрасаваным гарнітурам, яскравай мовай ці патухлым позіркам.

5-6 урокаў, праведзеныя адзін за адным, гранічна вымотваюць нават вопытнага настаўніка. А пасля яшчэ трэба прабегчыся па магазінах (пераважная большасць настаўнікаў — жанчыны), прыгатаваць страву, накарміць сям'ю — і зноў сесці за падрыхтоўку да ўрокаў і праверку сшыткаў. Аплата за сшыткі — капейкі, а некаторым прадметнікам (географам, гісторыкам) за гэта ўвогуле не плацяць. А вучні пішуць — кантрольныя работы, практычныя і лабараторныя, пісьмовыя адказы на апытанні і г.д.

Пры стаўцы 18 гадзінаў настаўнік прынамсі яшчэ столькі ж траціць на пазаўрочную работу. Таму рабочы тыдзень настаўніка — гэта мінімум 36 гадзін, хоць некаторыя часам кажуць: маўляў, добра ім, настаўнікам, толькі паўдня працуюць.

Яшчэ адна прычына галаўнога болю — класнае кіраўніцтва. Тут ужо Бог зусім няроўна дзеліць: калі пашанцуе з класам — абмяжуецеся некалькімі затрачанымі гадзінамі ў тыдзень і захаваеце здароўе. А калі не пашанцуе — страціце незлічона нерваў і часу. Што рабіць, калі ў класе 2—3, а то і 5-6 прагульшчыкаў? З кожным трэба пагутарыць, высветліць прычыны, схадзіць дадому... А дзеці бываюць такія хітрыя! Пазвоніш — возьме трубку і ледзяным тонам адкажа сваёй настаўніцы: «Вы не туды папалі». Іншы запэўніць, што бацькоў няма дома.

Узаемаадносіны з бацькамі — яшчэ адна складаная сфера існавання настаўніка. Людзі трапляюцца розныя — усім не дагадзіць. Да таго ж даволі распаўсюджанай з'яўляецца такая пазіцыя бацькоў: «Сям'я павінна абуць і накарміць, а вучыць і выхоўваць — школа».

Нярэдка класны кіраўнік выступае ў ролі жабрака: «Падайце, шаноўныя бацькі, на рамонт школы ў цэлым і класа ў прыватнасці!» Збор грошай непрыемны занятак, а збіраць даводзіцца рэгулярна: на абеды, на культпаходы, на падпіску, Бог ведае яшчэ на што...

## З агню ды ў полымя

Настаўнік адкрыты нападкам з усіх бакоў і даволі безабаронны. Калі параўноўваць, напрыклад, з шахматамі, то настаўнік — хутчэй пешка. Незадаволеныя вучні могуць паскардзіцца на яго завучу ці дырэктару, а то і проста наладзіць байкот ці іншыя непрыемнасці. Школьная адміністрацыя трымае ў руках вельмі моцны рычаг уздзеяння — размеркаванне вучэбнай нагрузкі і расклад (могуць вам у раскладзе тры ўрокі паставіць 1-м, 4-м і 8-м — вось і сядзі ў школе з ранку да вечара). А яшчэ — шматлікія правяральшчыкі: школьныя адміністратары, супрацоўнікі раённых ды гарадскіх аддзелаў адукацыі, незалежныя інспекцыі. І калі «набегі» свайго начальства часта маюць добрыя мэты (дапамагчы ў рабоце, паправіць недахопы), то візіцёры збоку хутчэй паказваюць настаўніку розніцу ў службовым становішчы, а зусім не ў інтэлекце. Настаўніка могуць пакрыўдзіць усе, хто толькі захоча, а вось абараняюць — толькі разумныя дырэктары (якіх, на жаль, няшмат).

Але трэба паспачуваць і школьнаму кіраўніцтву. На плячах дырэктараў і завучаў — гіганцкая адказнасць, бо яны маюць справу не з вінцікамі і гаечкамі, а з сотнямі, тысячамі дзяцей. Калі шасцікласнік з вашай школы папаўся на крадзяжы, калі васьмікласнікі распілі ў музеі бутэльку, калі дзесяцікласніца нарадзіла дзіця — адказваць, па завядзёнцы савецкіх часоў, давядзецца не бацькам, а школьнай адміністрацыі. А яшчэ дырэктар выбівае будматэрыялы, рамантуе школу, вядзе справы з санстанцыяй, пажарнікамі і г.д. Былі б дарэчы словы Астапа Бендэра: «Я чалавек зайздросны, але тут няма каму зайздросціць!»

## Людзі ніжэйшага гатунку

Што ж атрымліваюць настаўнікі за сваю цяжкую працу?

Тарыфная сетка супрацоўнікаў бюджэтных галінаў уключае ў сябе ўсяго 29 разрадаў. Дык вось, школьныя настаўнікі займаюць прыступкі з 9-й (маладыя выпускнікі педвучылішча) па 14-ю (вышэйшая адукацыя, вышэйшая катэгорыя). Гэта значыць, што дзяржава ставіць настаўнікаў на ўзровень «ніжэй сярэдняга». Цікава, што спартсмены, якія выступаюць у зборных камандах краіны і знаходзяцца на стаўках міністэрства спорту, атрымоўваюць па 16—20-м разрадах тарыфнай сеткі, а іхнія трэнеры — па 15—18. У праектных інстытутах інжынеры маюць прыкладна такія ж разрады, як і настаўнікі: з 11 па 14-ты. Аднак там ужо начальнік аддзела праходзіць па 19-м разрадзе, а школьны завуч (намеснік дырэктара) мае толькі 15—16-ты разрад, школьны дырэктар — 17—18-ты. Выходзіць, праектаваць будынкі важна, а вось чалавечыя лёсы — не вельмі.

Пэўная логіка тут ёсць, але логіка заганная: калі абрынецца мост — гэта адразу відаць, гэта небяспечна. А калі крывымі выйдуць жыццёвыя шляхі дзесяткаў ці соцень тысяч людзей — ніхто і не заўважыць.

Ніхто не спрачаецца: тэхніка, або вялікі спорт — рэчы сапраўды патрэбныя і важныя. Але чаму мае настолькі нізкі рэйтынг галіна, якая закладвае фундамент будучыні? Падняцце прэстыжу настаўніцкай прафесіі патрабуе павелічэння разраду хаця б на 2—3 прыступкі.

## Заробкі

Сярэдняя зарплата настаўнікаў Мінска ў траўні 1997 г., перад адпачынкамі, склала 2 мільёны 86 тысячаў рублёў, што адпавядае прыкладна 78 доларам па курсе Нацбанка. Годам раней гэтыя лічбы складалі 1 млн. 153 тыс. рублёў, ці 89 долараў, а на пачатку 1996 года сярэдні заробак настаўніка амаль дасягаў 100 долараў. Так што за нейкі год даходы школьных педагогаў знізіліся на 20 %.

З 1 верасня, як вядома, мінімальная зарплата і, адпаведна, заробкі ўсіх бюджэтнікаў, зноў павялічыліся. Аднак атрымаюць «новыя» сумы людзі толькі ў кастрычніку, і да таго часу рост цэнаў праглыне ўвесь прырост. Ужо абвешчана, што кватрплата павышаецца на 25%.

Старшыня прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Тамара Чобатава 14 жніўня звярнулася з лістом да прэзідэнта: «...*З кожным павышэннем мінімальнай зарплаты і тарыфнай стаўкі 1 разраду пры пастаянным росце цэнаў на тавары і паслугі адбываецца зніжэнне рэальнай заработнай платы, якая з студзеня гэтага года ні разу не дасягнула ўзроўню мінімальнага спажывецкага бюджэту*».

Пры такім стане рэчаў здзекліва выглядае ўвогуле добрая ідэя выплат настаўнікам на набыццё метадычнай літаратуры (штомесяц, пачынаючы з 1 ліпеня 1997 г., кожны настаўнік атрымлівае адну мінімальную зарплату). За гэтыя 150—200 тысяч настаўнік абавязкова павінен даць справаздачу — прадаставіць копіі чэкаў за набытыя кнігі. Не дай Бог патраціць гэтую суму на сваіх дзяцей!.. Выдаюць яшчэ настаўнікам так званыя «прэзідэнцкія»: двойчы за мінулы навучальны год па пяцьсот тысячаў. Відавочна, што гэта робіцца з палітычнымі мэтамі: маўляў, «толькі я пра вас і дбаю».

Неўзабаве, 3—4 кастрычніка, пройдзе І з'езд настаўнікаў Беларусі. Адна з галоўных праблемаў, што будзе абмяркоўвацца на з'ездзе, — «Гуманізацыя міжасабовых адносінаў у сучаснай школе». Праблема, безумоўна, надзённая. Аднак варта памятаць, што «быццё вызначае свядомасць». Спачатку трэба накарміць і апрануць настаўнікаў, праявіць гуманнасць да іх саміх і іхніх дзяцей, а ўжо потым патрабаваць ад педагогаў гуманнасці ў школе.

Першым крокам да гуманізацыі адносінаў дзяржавы да настаўнікаў павінна было б стаць выкананне артыкула 34 Закона аб адукацыі: сярэднемесячная зарплата настаўнікаў павінна быць не ніжэйшай за ўзровень зарплаты службоўцаў у прамысловасці. Пакуль што настаўнікі атрымліваюць 65—76% ад належнага ім па законе.

## Бяздольныя

Большасць настаўнікаў атрымлівае менш за прыведзеныя сярэднія лічбы. Гэта настаўнікі пачатковых класаў, маладыя спецыялісты і тыя, хто маюць невысокую нагрузку. Каб зарабіць, настаўнікі вымушаныя браць вялікую нагрузку, намнога большую за нармальныя 18 гадзінаў. Працуючы «на стаўку» нават настаўнік вышэйшай катэгорыі і ўжо пасля вераснёўскага падвышэння «мінімалкі» атрымае ўсяго 1 млн. 300 тысяч рублёў. Дакладней, столькі яму налічаць, а рэальна выйдзе менш.

Цяпер у Мінску сярэдняя нагрузка школьных настаўнікаў складае 24 гадзіны ў тыдзень, што прыносіць настаўніку вышэйшай катэгорыі 1.750 тысяч рублёў. Калі застаюцца сілы — можна падзарабіць яшчэ трошкі класным кіраўніцтвам, факультатывамі, гуртковай работай.



Вынік нізкіх заробкаў — вымыванне з школы настаўнікаў-мужчын, маладых спецыялістаў. Ці можа мужчына дазволіць сабе прыносіць у сям'ю мільён зарплаты? Як маладой настаўніцы забяспечыць сябе, калі зімовыя боты каштуюць больш за месячны заробак? Людзі не бачаць сэнсу ў сваёй працы, калі затрачаныя сілы і час зусім не кампенсуюцца матэрыяльна.

У школах сёння яўны недахоп выкладчыкаў замежных моваў, тэхнічнай працы, фізкультуры, іншых спецыяльнасцяў. Нашае настаўніцтва катастрафічна старэе. Няма каму перадаваць вопыт і традыцыі.

А між тым менавіта ў школе закладваецца падмурак нашай блізкай будучыні. А можа, ужо не закладваецца?

**Барыс ТАСМАН**

# БДУ падвышае стаўкі

**З 10 верасня кошт навучання ў БДУ для студэнтаў старэйшых курсаў, якія вучацца па кантракце, істотна падвысіўся. Плата паднялася ў 2-3 разы.**

Прарэктар БДУ па эканоміцы і камерцыйных пытаннях Сяргей Векша тлумачыць гэта тым, што сумы, якія студэнты плацілі дагэтуль, ужо не пакрываюць затраты на іхняе навучанне.

У дамовах, якія студэнты заключалі з БДУ некалькі гадоў таму, плата за навучанне разлічвалася ў мінімальных заробках і, напрыклад, студэнт чацвёртага курса гістарычнага факультэта раней плаціў 25 мінімальных зарплат за год навучання: па сённяшніх мерках гэта 5 мільёнаў рублёў, або каля 200 долараў. Цяпер усё інакш: студэнтам прапанавана перазаключыць дамовы і плаціць па новых стаўках. Такім чынам, той жа гісторык павінен заплаціць 450 долараў.

Але ж не ўсе могуць такія грошы знайсці — тым больш, што апошні тэрмін аплаты 20 верасня, потым пойдзе пеня. Аднак прарэктар БДУ па вучэбнай рабоце і сацыяльных пытаннях Анатоль Паўлаў упэўнены, што праблемы няма: маўляў, бацькі заўсёды змогуць дапамагчы сваім дзецям і знайсці неабходныя сродкі.

Студэнты абураюцца — і маюць рацыю. Але свае аргументы мае і рэктар. Кошт навучання ў БДУ для першакурсніка сёння складае ад 600 долараў і вышэй, і тыя, хто толькі пачаў вучыцца, незадаволеныя, што ім давадзіцца плаціць нашмат больш, чым старэйшым студэнтам. Пры гэтым, па словах С.Векшы, навучанне «платнікаў» для БДУ нават стратнае, універсітэт фактычна дае датацыю. Аднак студэнты маюць падставы для незадавальнення, бо пра падвышэнне аплаты было абвешчана ўжо пасля пачатку навучальнага года — дый знайсці вялікія грошы трэба ўсяго за 10 дзён. Праўда, С.Векша запэўніў, што да кожнага студэнта будзе індывідуальны падыход: БДУ зацікаўлены ў тым, каб яны працягвалі вучобу.

А пакуль разгубленыя студэнты трацяць больш часу на пошук грошай, чым на заняткі. А тыя хлопцы, хто не знайшоў крыніцаў фінансавай падтрымкі, рыхтуюцца змяніць універсітэцкія аўдыторыі на армейскія казармы. Бо калі нават перайсці на завочнае аддзяленне, каб паменшыць аплату, то ад арміі гэта не выратуе.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Беларусь как детонатор для Европы

## *Заметки с Вильнюсского саммита*

**Олег МАНАЕВ**
**профессор, директор Независимого института социально-экономических и политических исследований**



О необходимости всем странам заботиться о соблюдении принципов демократии, правового государства, свободного рынка, а также принципов свободы печати, слова и собраний, соблюдении прав человека и меньшинств говорили на Вильнюсском саммите почти все президенты. В итоговом заявлении президента Литовской Республики и президента Польской Республики, выступивших инициаторами саммита, было подчеркнуто, что «эти условия являются необходимыми для преодоления линий раздела в Европе и расширения добрососедских отношений». В самом деле, как показывает опыт XX века, диктатуры или нестабильные страны мирно существовать не могут, их может объединить разве что совместная агрессия против других стран.

В последнее время много говорится о наступлении диктатуры в Беларуси, а ее главным источником и реализатором называют президента Александра Лукашенко. Беларусь все больше привлекает к себе внимание как потенциальный источник нестабильности в регионе, многие политики и аналитики все чаще задаются вопросом: можно ли мирно сосуществовать с Лукашенко? Можно ли верить его обещаниям, его подписи под различными договорами и пр.? Иначе говоря, **проблему нестабильности Беларуси сводят к проблеме непредсказуемости ее президента и поэтому полагают, что решить эту проблему может лишь смена лидера**. Как профессиональный социолог, внимательно изучающий белорусское общество, я считаю такой подход **поверхностным** и в конечном счете **ошибочным**.

**Социологические исследования показывают, что белорусское общество сегодня расколото почти пополам на два доминирующих социальных типа.** Один тип характеризуется крайне консервативным, антидемократическим, антирыночным, контрреформаторским сознанием, нетерпимым к чужому мнению. Во всех бедах и неудачах он склонен обвинять разнообразных врагов — более удачливых сограждан или чужих, разделяющих другие ценности, и полагаться больше на государство, чем на собственную инициативу. Другой тип, наоборот, разделяет демократические и рыночные принципы, стремится к реформам, более открыт для диалога и сотрудничества с другими, активно участвует в негосударственной экономике и деятельности разнообразных неправительственных организаций. К первому типу в основном принадлежит пожилая, малообразованная, бедная часть населения, проживающая главным образом в селах и маленьких городках. Во втором типе доминируют образованные, более молодые люди, имеющие лучшее материальное положение, проживающие преимущественно в столицах и крупных городах. Идеал первого типа принадлежит прошлому, его лозунг: «Назад, в СССР!». Идеал второго типа принадлежит будущему, его лозунг: «Вперед, в Европу!». **Очевидно, что эти социальные типы — антагонисты, имеющие различные жизненные перспективы, а потому строить государственную политику, опираясь одновременно на обы из них, невозможно.**

Такое разделение в той или иной мере характерно сегодня для всех стран Восточной Европы и СНГ. Оно, конечно, порождает определенную социальную напряженность, но, к счастью, не раскалывает общество, и остается скорее социальной, чем политической проблемой. **В Беларуси, к сожалению, такой раскол уже наступил и превратился в серьезную политическую проблему. И главная причина этого состоит в том, что политика президента Лукашенко опирается и выражает главным образом чувства, интересы и волю первого социального типа, игнорируя и подавляя чувства, интересы и волю другой части белорусского общества.** Поэтому люди, разделяющие принципы демократии, рыночной экономики и прав человека, оказываются, образно говоря, «припертыми к стенке», а потому формирование гражданского общества и рыночной экономики в Беларуси, по сути дела, превращается в политическую борьбу. Оппозиция, предприниматели и все несогласные вынуждены идти не в университеты и *NGO's*, не в профсоюзы и на рынки, а на площади и улицы, не вести публичный диалог с властями в парламенте и масс-медиа, а объявлять забастовки и голодовки.

Примечательно, что сторонники и не-сторонники президента по разному оценивают степень социальной напряженности в белорусском обществе. Так, из тех, кто считает, что социальных конфликтов в Беларуси практически нет, 56,7% являются сторонниками президента Лукашенко, а 43,3% — нет, среди тех, кто считает, что социальная напряженность велика и может привести к взрыву, наоборот, 67,2% не являются сторонниками президента, а 32,8% — да.

Острота проявления конфликтов также оценивается по разному.

| Острота проявления конфликтов в Беларуси: | Чрезвычайно остро | С умеренной остротой | Не проявляются |
|---|---|---|---|
| Между богатыми и бедными | | | |
| * надеются на президента | 43.8 | 49.9 | 53.5 |
| * не надеются | 56.2 | 50.1 | 46.5 |
| Между народом и властью | | | |
| * надеются на президента | 31.5 | 49.0 | 62.6 |
| * не надеются | 68.5 | 51.0 | 37.4 |

Как видно из этой таблицы, именно те, кто **не надеется на президента**, чувствуют социальный дискомфорт, особенно в отношениях между народом и властью.

| Позиция в социальных конфликтах | Надеются на президента | Не надеются на президента |
|---|---|---|
| являются сторонними наблюдателями | 50.6 | 49.4 |
| поддерживают одну из сторон, но в конфликтах не участвуют | 43.6 | 56.4 |
| участвуют в конфликтах, защищая одну из сторон | 38.1 | 61.9 |

Очевидно также, что чувство социального дискомфорта многих людей приводит к участию в конфликтах, причем **чем активнее они участвуют в этих конфликтах, тем меньше надежд вызывает у них президент**.

| Наиболее эффективные пути для выражения мнений и воздействия на власти | Надеются на президента | Не надеются на президента |
|---|---|---|
| митинги и демонстрации | 49.6 | 50.4 |
| пикеты | 40.0 | 60.0 |
| забастовки | 38.8 | 61.2 |
| голодовки | 25.8 | 74.2 |
| насильственные действия | 33.3 | 66.7 |
| выступления в средствах массовой информации | 45.5 | 54.5 |
| выступления на различных собраниях | 64.1 | 35.9 |

Нельзя не обратить внимание на то, что люди, не являющиеся сторонниками президента, для эффективного выражения своего мнения и воздействия на власть вынуждены использовать наиболее активные, жесткие формы: на одного сторонника президента, выбирающего забастовки или насильственные действия, приходится два не-сторонника, среди назвавших голодовки их соотношение составляет уже 1 : 3.

Анализ показал также, что выбор наиболее активных путей выражения своего мнения и воздействия на власти людьми, не поддерживающими президента, имеет вполне реальный, а не чисто символический характер: среди участвовавших в бойкотах, митингах, демонстрациях, голодовках, действиях группы протеста или работе политической организации сторонников президента в полтора-два, а то и три раза меньше.

| Отношение к политическим силам, деятельность которых не противоречит закону, но, по мнению респондентов, наносит ущерб интересам Беларуси | Надеются на президента | Не надеются на президента |
|---|---|---|
| запретить деятельность таких сил | 54.0 | 46.0 |
| ограничить для них возможности организации публичных действий: митингов, шествий, демонстраций | 44.7 | 55.3 |
| ограничить для них возможности пропагандировать свои идеи в СМИ | 42.8 | 57.2 |
| предоставить им равные права с другими силами | 41.3 | 58.7 |

Поразительно, однако, что несмотря на социальный дискомфорт и реальное участие в социальных конфликтах, причем в наиболее жестких формах, не-сторонники президента оказываются гораздо более терпимыми к своим оппонентам, чем его сторонники. Это значит, что эскалация социальной напряженности, вовлекающая людей в открытые конфликты, происходит не по их вине.

**Анализ динамики электората президента Лукашенко за три года показывает, что социально-пассивный тип с консервативным сознанием все больше доминирует, постепенно вытесняя социально-активный тип с демократическим сознанием в не-электорат. Это значит, что Беларусь идет в тупик.** Причем тупик не только для общества, но и для самой власти. Консервативная часть президентского электората возлагает на Лукашенко свои надежды не потому, что подпала под его магические чары, а наоборот, верит ему и поддерживает его потому, что он обещает быстро решить все ее проблемы, причем сделать это понятными, привычными методами. Образно говоря, президент становится заложником своего электората и может сохранять власть только удовлетворяя все более примитивные и агрессивные ожидания.



*Как показывают социологические опросы, белорусское общество сегодня расколото почти пополам.*

Именно в этом и кроется главная причина социальной нестабильности в Беларуси. **Именно в консервативно-агрессивных ожиданиях все возрастающей части президентского электората и заключается угроза нестабильности в соседних странах и во всем регионе. Усиление этой тенденции может стать фактором, детонирующим социальную нестабильность прежде всего в России и Украине и стимулировать реставрацию империи (возможно, в новом обличье: скажем, не советской, а панславянской).** Эти страны, несмотря на постепенную стабилизацию, все еще полны «взрывчатого материала»: и значительная часть электората, и весьма влиятельные силы, жаждущие политического реванша, готовы поддержать курс, утвердившийся в Беларуси. Цепная реакция подобного взрыва может распространиться далеко за пределы региона, захватить всю Восточную Европу и СНГ, послужить источником глобальной дестабилизации.

Просто поражает готовность многих политиков, аналитиков и журналистов объяснять все проблемы Беларуси личностью ее президента. Замечают все: что президент сказал, какой документ подписал, кого возвысил или унизил, замечают даже цвет его костюма или форму прически. Зато в упор не видят другого: угрюмые лица на улицах и в троллейбусах, злобные выкрики и сжатые кулаки в публичных спорах, письма избирателей своим депутатам («как коммунист коммунисту») с угрозами «встретить с гранатометом» и т.п. Общество деморализуется и люмпенизируется прямо на глазах. А споры все те же: 45% голосов получит завтра Лукашенко или 35%? А если и 35%, их-то куда девать? Сможет ли его переспорить политик *N* или нет? А если и переспорит, что будет делать с теми самыми 45%-35%? Необоснованная идеализация белорусского народа как особо просвещенного и толерантного (в отличие, например, от русского) после референдума 1995 года сменилась столь же малообоснованным тезисом о его «подмене», произошедшей в результате то ли царской, то ли сталинской политики. Уж не этой ли странной культурно-политической аберрацией объясняется упорное стремление говорить о Лукашенко, а не об обществе? Как тут не вспомнить знаменитое изречение Воланда, оказавшегося в тягостной атмосфере сталинской Москвы: «Ну что же, они — люди как люди... вообще, напоминают прежних... квартирный вопрос только испортил их».

Я убежден, что для социальной стабильности в Беларуси нужна не столько смена лидера, сколько смена нынешнего политического курса, отвечающего ожиданиям консервативно-агрессивной части белорусского общества. **Социальные резервы для этого есть: ведь вторая половина нынешнего белорусского электората — это тот самый социальный тип, лозунг которого «Вперед, в Европу!».** Теоретически говоря, нынешний президент во главе нового курса представляется отнюдь не менее вероятным, чем новый президент, продолжающий курс нынешний. Возможно, Александр Лукашенко во главе нового курса мог бы получить поддержку и в своей стране, и в Европе. Но возможно, и то, что новый президент, «списавший» все указанные проблемы на Лукашенко, пошел бы в Европу не с пальмовой веткой мира, а с тем же детонатором в руках.

## У Кіеве руская мова нароўні з англійскай

**У раскладзе заняткаў многіх кіеўскіх школ з гэтага вучэбнага года практычна няма рускай мовы.**

Дырэктарка кіеўскай школы, дзе няма рускай мовы, патлумачыла сітуацыю: *«Ёсць тры катэгорыі школьных прадметаў. Гэта абавязковыя для вывучэння ў кожнай школе кожным вучнем. Затым дысцыпліны, якія ўводзяцца па рашэнні мясцовых органаў адукацыі. А ёсць прадметы, якія могуць вывучацца, а могуць і не вывучацца — па рашэнні школы. Руская мова належыць да апошніх. І трэба сказаць, што прадметаў з першых дзвюх катэгорый набіраецца столькі, што для трэцяй не застаецца месца. На рускую мову — толькі адна гадзіна ў тыдзень. Але ж на гэты ж час можна паставіць валеалогію, навуку пра здароўе чалавека. Наш педкалектыў выбраў другое».*

Дарэчы, у Кіеве сёння ўсё больш бацькоў, чые дзеці пачыналі вучыцца на рускай мове, хочуць перавесціся «на ўкраінскую». У выніку, у гэтым навучальным годзе ў Кіеве засталося 20 школ з рускім статусам. Летась такіх было 37. Больш таго, у рускіх школах адкрываюцца ўкраінскія класы. І зусім ашаламляльная лічба: сёння 98 працэнтаў кіеўскіх першакласнікаў вучацца на ўкраінскай мове.

Але пытанне не ў тым, на якой мове вучыцца, а — вучыць рускую ці не? Нават калі школа ўкраінская. Як бачым, па аб'ектыўных прычынах руская мова знікае з раскладу як неабавязковы прадмет. А пасля прыняцця Канстытуцыі, паводле якой дзяржаўная мова ў краіне — украінская, руская ўвогуле набыла быццам бы статус замежнай. Так што ў шэрагу вучэбных дысцыплін рускую мову цяпер разглядаюць часта нароўні з іншымі мовамі — англійскай, нямецкай, японскай і г.д.

Аб'ектыўны і той факт, што сёння няма сэнсу вывучаць рускую мову па тыпу англійскай. Украінскія дзеці на пабытовым размоўным узроўні яе ведаюць. А стылістыку і граматыку рускай мовы няхай вывучаюць тыя, каму гэта неабходна прафесійна. І справядліва, што тыя, хто хоча вучыцца ў Расіі, наймаюць рэпетытара па рускай мове, а хто хоча вучыцца ў Амерыцы — па англійскай.

**Галіна ГАЛАЎЛЁВА**
*«Киевские ведомости»*

*Літва*

# Кірунак адзін – толькі на Захад

**Літва рашуча настроеная праваццца ў Еўрасаюз. Не паспеў прыпыліцца віленскі брук пасля ад'езду 11 лідэраў цэнтральнаеўрапейскіх краінаў, як тут ізноў рыхтуецца дыпламатычнае шоў.**

Як ужо зазначала СВАБОДА, паводле даклада Еўракамісіі, Літоўская Рэспуліка яшчэ не гатовая да ўступлення ў ЕС. Да гэткіх жа высноваў Еўракамісія прыйшла і ў дачыненні да Латвіі. А вось Эстонія ў наступным годзе стане членам ЕС. Гэтыя акалічнасці прывялі, па-першае, да крызісу ў Балтыйскай супольнасці (латышы і літоўцы пакрыўджаныя на эстонцаў за іхні эгаізм). Па-другое, у Латвіі і асабліва ў Літве высновы Еўракамісіі справакавалі ўнутрыпалітычныя звадкі.

Літоўскія ўлады і дыпламатычныя колы ўспрынялі крытыку хвараўта. Перад самым прэзідэнцкімі выбарамі Еўракамісія, па сутнасці, дала ацэнку дзейнасці Бразаўскаса, ягонага ўраду, ягонае партыі. Для Бразаўскаса гэта зусім недарэчы...

Пазіцыя Еўрасаюза выглядае наступным чынам. За ўступленне ўсіх прэтэндэнтаў адразу — чатыры дзяржавы: Данія, Італія, Швецыя, Грэцыя. З другога боку, Аўстрыя, Іспанія, Партугалія да сёння так і не вызначыліся. Астатнія ў той ці іншай ступені падзяляюць пазіцыю Еўракамісіі: Эстонію — цяпер, іншых потым. Міністр Літвы па справах Еўропы, сп-ня Лайма Андрыкене, заявіла, што бліжэйшыя мэты літоўскае дыпламатыі — гэта нейтралізаваць непрыхільнікаў і павялічыць саюзнікаў.

27 верасня ў Вільні пройдзе чарговая міжнародная канферэнцыя «Літва — у Еўрасаюз». Да ўдзелу ў ёй запрошаныя члены Еўракамісіі, міністры краінаў ЕС, прадстаўнікі нацыянальных парламентаў Еўропы. Мяркуецца, што разам з прэзідэнтам Літвы, старшынёю і дэпутатамі Сейма, урадоўцамі, прадстаўнікамі пазаўрадавых арганізацыяў — будзе каля 300 удзельнікаў. Беларусаў не запрашаюць...

Канферэнцыя пройдзе ў старасвецкай Віленскай Ратушы, акурат насупраць дома, дзе была дуркарня Скарыны. Усе паседжанні будуць транслявацца праз вялізарныя маніторы на плошчу і па *TV*. Канферэнцыя абыдзецца Літве ў 1,5 млн. літаў (350 тыс. USD).

Для Бразаўскаса гэта някепская рэклама перад выбарамі. Для Літвы — чарговы прарыў на міжнароднай арэне. Для Беларусі — пацверджанне таго, што паўночныя суседзі аднязначна імкнуцца ў Еўропу, звужаючы кантакты з Мінскам, перабудоўваюць масавую свядомасць літоўскага грамадства толькі ў адным, перспектыўным магістральным накірунку: на Захад.

*Беларуска-Літоўскі інфармацыйны цэнтр*

# Тэрнер ахвяруе ААН мільярд долараў

**У мінулы чацвер амерыканскі тэлемагнат Тэд Тэрнер сустрэўся з генеральным сакратаром Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў Кофі Ананам і аб'явіў яму пра свой намер ахвяраваць 1 мільярд долараў на патрэбы ААН.**

*«Гэта вельмі незвычайны і шляхетны дар»*, — толькі і змог сказаць Кофі Анан.



*Тэд Тэрнер.*

На працягу наступных 10 гадоў Т.Тэрнер плануе перадаваць ААН па 100 мільёнаў долараў штогод. Па словах самога Тэрнера, грошы пойдуць не на ўтрыманне апарата ААН, а на фінансаванне канкрэтных праграмаў пад эгідай ААН: кампанія за раззбраенне, кампаніі, накіраваныя супраць агульнага пацяплення на Зямлі, супраць СНІДу і нават, у памяць пра прынцэсу Дыяну, супраць ужывання проціпехотных мінаў.

Тэду Тэрнеру 56 гадоў, ён заснавальнік буйнейшай навіновай тэлерадыёкампаніі *CNN* і віцэ-прэзідэнт групы *Time/Warner* — лідэра на рынку тэлекамунікацыяў. Грошы, якія ён ахвяраваў, для яго з'яўляюцца *«толькі 9-месяцавым прыбыткам»*, атрыманым дзякуючы пад'ёму курсу акцый *Time/Warner* на амерыканскім фондавым рынку. Але, з другога боку, гэтая сума складае гадавы бюджэт фукцыянавання ААН. Дарэчы, такая ж сума складае запазычанасць ЗША перад ААН. Раней Т.Тэрнер ужо прапанаваў Б.Клінтану вярнуць гэтую запазычанасць, але Кангрэс ЗША адмовіўся гэта зрабіць, пакуль ААН не выканае цэлы шэраг умоваў, першая сярод якіх — змяншэнне запазычанасці ЗША.

Як сцвярджае *New York Times*, Тэрнер — найбольш міласэрдны філантроп у амерыканскай гісторыі, нават большы, чым Карнэгі ці Ракфелер. *«Свет напоўнены мільярдэрамі, якія не ведаюць, што рабіць са сваімі грашыма»*, — упэўнены Т.Тэрнер, якога амерыканская прэса называе *«вялікая паўднёвая пастка»* за ягоныя правакуючыя альбо шакіруючыя заявы. Т.Тэрнер паабяцаў дапамагаць ААН знаходзіць грошы пад новыя праграмы ААН. *«Калі вы маеце вялікія грошы, то ў хуткім часе вы пачуеце пра мяне»*, — паабяцаў ён, выступаючы на тэлеканале *CNN*. Ягоны жэст прызваны дапамагчы ААН, фінансавы стан якой з кожным годам пагаршаецца.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Об отставке Примакова

**Немецкая газета «Вюрцбургер Альгемайне» поместила статью, посвященную постоянно курсирующим слухам о грядущей отставке министра иностранных дел России Евгения Примакова.**



*Евгений Примаков.*

Газета сообщает, что слухи об отставке Примакова не прекращаются с того момента, как между Россией и Беларусью начали возникать трения по вопросу объединения. Несмотря на то, что возможность отставки Примакова уже неоднократно опровергалась, пишет газета, слухи с каждым днем становились все активнее. Газета отмечает, что слухи об отставке курсируют настолько упорно, что недавно сам Примаков вынужден был заявить о том, что не собирается уходить со своего поста. По мнению газеты, несмотря на целый ряд подобных опровержений, отставка Примакова все-таки может состояться, так как во внешней политике России в последнее время появились некоторые проблемы. Это касается, в частности, той же Беларуси.

Газета «Московские новости» сообщает, что Евгений Примаков якобы написал уже заявление президенту Ельцину с просьбой об уходе «по собственному желанию». В качестве наиболее вероятных кандидатов на пост шефа российского МИДа «Московские новости» называют Сергея Ястржембского и Ивана Рыбкина.

## Клод Ширак не может даже мечтать о власти Татьяны Дьяченко

**На эту неделе планируется визит президента Франции Жака Ширака и его дочери Клод в Москву.**

Это первый официальный визит Ширака в Москву. Однако во время кремлевского обеда, который Борис Ельцин намерен устроить в честь высокопоставленных гостей, внимание всех присутствующих будет приковано к дочерям двух президентов — Татьяне и Клод, считает *Sunday Times*. Как известно, помимо негласного титула «первой дочери» Клод Ширак и Татьяну Дьяченко объединяет и тот факт, что у себя на родине они обе считаются самими влиятельными женщинами. И та, и другая являются личными советниками своих отцов-президентов, и давно уже превратились в их тени, считает автор статьи. Но несмотря на это, по мнению ряда российских аналитиков, Татьяна Дьяченко обладает такой политической властью, о какой Клод даже не может мечтать. *«И если для Жака Ширака Клод — это только один из способов поддержания своего политического успеха, то Татьяна для Бориса Ельцина — единственный»*, цитирует *Sunday Times* российского аналитика Андрея Пионтковского.

## Американцы любят Канаду, но не Россию

**Американские социологи провели опрос среди американцев с целью выяснить, кого они хотят видеть своими союзниками.**

Как оказалось, лидирующее место в этом вопросе заняла Канада: более 70 процентов опрошенных американцев выступили за «тесное сотрудничество» с Канадой. 60 процентов опрошенных посчитали возможным связать будущее Америки с Великобританией. Пятерку лидирующих стран замыкают Австралия, Франция и Мексика. Самыми непривлекательными и ненадежными для «тесного сотрудничества» американцы считают Россию, Китай и Израиль.

## Боятся русские войны

**Среди государств, которые могут развязать войну против России, россияне назвали не только США, Китай и Чечню, но также Украину и Беларусь.**

Такие нежиданные результаты дал всероссийский социологический опрос, проведенный фондом «Общественное мнение».

# Расія кідае выклік фермерам Амерыкі

**Расія мае намер экспартаваць частку свайго сёлетняга ўраджаю збожжа. Барыс Ельцын абвясціў, што краіна вярнула сабе статус «вялікай збожжавай дзяржавы».**

Згодна з заявай расійскага прэзідэнта, чакаемы ўраджай складзе 80 млн. тон. Арыенціровачна Расія здолее прадаць 10 млн. тон зерня. Аднак кампаніі, якія спецыялізуюцца на гандлі збожжам, наконт аб'ёмаў экспарту настроеныя вельмі скептычна. Цэны на збожжа на сусветным рынку знаходзяцца ўжо на даволі нізкім узроўні дзякуючы добрым ураджаям па ўсім свеце, а значыць, экспарт расійскага зерня не здолее на іх істотна паўплываць, і Расіі не ўдасца зарабіць на экспарце збожжа.

Прэзідэнт Ельцын не ўпусціў выпадку пахваліць сябе. Маўляў, такі небывала вялікі ўраджай сведчыць, што рэформы пачынаюць дзейнічаць нават у сельскагаспадарчым сектары, які дагэтуль цягнуўся ў хвасце рыначных зменаў. *«Усё гэта паказвае, што сельская гаспадарка неабавязкова павінна быць стратнай»*, — дадаў Ельцын.

Сапраўды, развіццё сельскай гаспадаркі цесна звязанае з рэформамі. Па словах Ельцына, фермеры — гэта будучыня Расіі, і ім павінна быць прадастаўленае права на свабодную куплю і продаж зямлі. Барыс Ельцын таксама ўхваліў сістэму прадастаўлення фермерам крэдытаў праз камерцыйныя банкі, якая выкарыстоўвалася ўпершыню. Ён адзначыў, што такі парадак крэдытавання дазволіў адначасова працягнуць субсідаванне сельскай гаспадаркі і зменшыць нагрузку на бюджэт.

Традыцыйна, па меншай меры на працягу апошніх 50 гадоў, Расія купляла ў ЗША і Канады не менш за 20 млн. тон зерня ў год. Гэта быў вельмі сур'ёзны бізнес. З заявай расійскіх кіраўнікоў вынікае, што паўночнаамерыканскія фермеры цяпер павінны канкураваць з варонежскімі і алтайскімі сейбітамі.

Лонданскі брокер Рычард Мойх'ю, спецыяліст па гандлі зернем, сказаў: *«Мяне б здзівіла, калі б Расія прадала 10 млн. тон, але ў любым выпадку яны здолеюць нешта прадаць»*. Хутчэй за ўсё Расія паставіць на сусветны рынак кармавое збожжа нізкай якасці, і ёй усё роўна давядзецца закупіць больш высакаякаснае збожжа, каб забяспечыць вытворчасць хлеба.

*Па матэрыялах Financial Times*
**Аляксей ДУНАЕЎСКІ**

 



СВАБОДА
23 верасня 1997 г., № 105

# Будем помнить о Гераклите

*С лауреатом Нобелевской премии польским поэтом Чеславом Милошем беседует Семен Букчин*

Когда 6 сентября Милош выступал со своим докладом «О реке Гераклита и двадцатом веке», президента Лукашенко уже не было в Вильнюсе. С несомненным чувством очередной одержанной победы он отправился на московские празднества. Впрочем, я не уверен, что имя польского поэта и эссеиста обременяет интеллектуальный багаж нашего правителя. Хотя и не исключаю, что «органы» подготовили ему соответствующую справку: враг народной Польши и Советского Союза, многолетний сотрудник эмигрантской «Культуры», издающейся в Париже таким же «отщепенцем» Ежи Гедройцем... Ну и так далее.

Но не будем обижать Лукашенко. А в докладе Милоша было что послушать. 86-летний Милош отнюдь не дремал на заседаниях международной конференции президентов, политиков, общественных деятелей и интеллектуалов. Он прекрасно выдерживал ее напряженный ритм, как и напор журналистов из разных стран. Необычайно интенсивна в последние годы и творческая деятельность патриарха польской литературы. Только в этом году у него вышли «Азбука Милоша» — своеобразный сборник воспоминаний, житейских наблюдений и заметок, «Жизнь на островах» — книга эссеистики на темы культуры. Буквально на днях появился том под названием «Придорожный щенок», жанровую природу которого определить довольно сложно: краткие прозаические произведения вперемежку со стихами свидетельствуют, что Милош не устает искать наиболее емких форм общения с читателем. Одним словом, этот не тот случай, когда, по известному выражению, Нобелевская премия является «поцелуем смерти».

Признаюсь, что меня, как читателя, более всего притягивает эссеистика Милоша. Это неоценимый опыт европейца, буквально на глазах и с самым непосредственным участием которого «протек» наш век: довоенная Вильня, трагедия Польши, кризисная Западная Европа, самоуверенная и все равно сомневающаяся Америка, крушение империй... Милош прошел через много искусов — национальных и социальных, многое видел и понял на своем немалом веку.

Не без колебаний (а вдруг откажет?) я набрал номер телефона в гостинице «Новый Вильнюс». Милош согласился на беседу сразу же. Только переспросил: «Сконт пан? З Бялоруси? Но то добже».



*Во время встречи в Вильнюсе.*

**Начали с доклада на конференции...**

— Знаете, тема моего выступления не случайна. Еще в 1929 году, на выпускном экзамене в виленской гимназии я писал сочинение о Гераклите. Этот образ времени-реки почему-то очень волновал мою совсем юную тогда душу. И до сих пор волнует. Многие помнят знаменитое изречение грека из Эфеса о том, что нельзя дважды войти в одну и ту же реку, но Гераклит говорил еще и о воде, чистой для одних живых существ и грязной для других, об относительности красоты божества, человека и обезьяны и вообще об относительности всех человеческих дел и поступков.

**— Где же критерий истины?**

— А это судьба, дорогой мой, она же разум, управляющий сущностью всего. Это Гераклит так считал. Ну посмотрите, в течение моей жизни к власти в своих странах пришли два величайших преступника — Сталин и Гитлер. Ну и во что обратились все их усилия, вся их мощь? В пепел. Из чего следует моральный урок: зло рано или поздно, но проигрывает.

**— Но в своем докладе вы сказали, что не всегда верили в то, что зло уступит или будет разоблачено.**

— Я, действительно, не всегда верил... Но знал людей, которые ни на минуту не сомневались, что империя Сталина распадется, что Литва, Латвия, Эстония, Украина и Беларусь станут независимыми государствами.

**— Выступая на конференции, вы назвали одного из них — редактора парижской «Культуры» Ежи Гедройца. Но сегодня Гедройц полон сомнений насчет национальной состоятельности белорусов.**

— Это от горечи... Гедройц любит вашу страну и ваш народ. И считает, что вы заслуживаете лучшей судьбы. Может быть, его высказывания — это прежде всего упрек вашей интеллигенции? Ибо кто же, как не интеллигенция, делает народ нацией?

Я выпустил книгу «Поиски отчизны». Она вышла и в Варшаве, и в литовском переводе в Вильнюсе, что мне особенно приятно, поскольку известна сложность польско-литовских национально-исторических отношений. Выходит, я не задел здесь чьих-то чувств и, может быть, в чем-то оказался прав. Книга, в основном, посвящена девятнадцатому веку. Только во второй половине столетия нашлись люди, которые воскресили литовский язык. Это были студенты, учителя, священники. Винцас Кудирка был студентом-медиком, он очень горячо выступал за пробуждение национального самосознания литовцев. Сын крестьянина, он в юные годы оказался в гимназической и университетской среде, где говорили по-польски. И он поначалу стыдился своего отца, говорившего по-литовски, как человека некультурного. И вот такая метаморфоза: Кудирка стал лидером литовского национального процесса.

Он умер в самом конце девятнадцатого века, в 1899 году, сорокалетним, так и не увидев плодов своего дела. Но оно получило развитие, не заглохло. Очень велика была роль так называемого движения «переносчиков книг». Книги на литовском языке были запрещены. Их печатали в Пруссии и буквально на плечах доставляли в Литву. Литовцы из населения, из народности стали превращаться в нацию. И это прежде всего заслуга интеллигенции.

Мои детские годы и юность, как вы знаете, прошли в Вильно, и я застал еще некоторых из этих благородных людей. Хотя сам воспитывался в русле польской культуры. Кстати, похожие процессы шли и на Украине. Украинский язык тоже ведь считался холопским, языком темных, невежественных людей. Украинская интеллигенция сумела поднять его значение именно как языка культуры.

**— Но ведь и у нас шли схожие процессы.**

— Я думаю, нынешняя трагедия Беларуси связана с тем, что ту интеллигенцию, которая занималась воспитанием народа, Сталин уничтожил.

**— Какое впечатление на вас производили белорусы, с которыми Вы сталкивались в Вильне в довоенные годы?**

— Белорусы в Вильне это большая и разнообразная тема... Возьмем Максима Танка, которого я знал лично. Он и люди из его окружения — это были коммунисты, они ориентировались на советский Минск в большинстве случаев. Были, конечно, и другие люди... К примеру, человек — я забыл, к сожалению, его имя, — возвратившийся в Вильню из советских лагерей. Арестовали его в Минске... И вот он много рассказывал нам о советской жизни, которая, оказывается, была не так прекрасна, как описывали советские газеты и радио. От него мы узнали правду о лагерях, о преследованиях белорусской интеллигенции... Что же касается существования в Вильне белорусской культуры в довоенные годы, то для меня — думаю, впрочем, что и для многих других тогдашних жителей города, — она прежде всего была связана с выступлениями замечательного Белорусского хора. Мне запомнились в его исполнении произведения русского композитора Глазунова, использовавшего белорусские фольклорные мотивы. Кстати, я работал тогда на радио и нередко включал в музыкальные программы записи с выступлениями Белорусского хора. Это было где-то в тридцать пятом — тридцать шестом годах... И вот эта моя инициатива была одной из причин моих трений с польской администрацией в Вильне и увольнения из редакции радиовещания, а затем, накануне входа в город советских войск, отъезда в Варшаву. Это случилось уже в сороковом году...

**— Если Вы не возражаете, вернемся к роли интеллигенции в воспитании народа, в формировании нации. Нет ли у вас ощущения, что есть некое время рождения, становления наций... Таким временем для литовцев, латышей, эстонцев, украинцев, словаков, других «окраинных» народов Российской, Австро-Венгерской империй был период конца девятнадцатого — начала двадцатого веков. И для белорусов, разумеется... Период национального возрождения. И вот народы, которые успели или которым, может быть, повезло в истории, они вышли в нации... А вот другие... Ну это как с женщиной, которая в шестьдесят лет родить не может: есть время для родов, пропуск которого трагичен. Или все-таки у наций, недозревших, недосформированных шансы сохраняются? Извините за глобальность вопроса...**

— Вопрос, действительно, большой. Но шансы есть у каждого народа.

Вы знаете, я всегда был противником национализма. И польского, и всякого другого. Я был свидетелем всего, что происходило в довоенной Литве. Но я родился в дворянской семье, и мы говорили по-польски. Еще с шестнадцатого века. Я сталкивался с литовским национализмом. В межвоенное двадцатилетие он имел довольно-таки фанатичные проявления. Сегодня в Литве ситуация иная, хотя и не без сложностей.

Поясню на примере Финляндии. Там в ходу два языка — финский и шведский. Они нормально сосуществуют. Нет такого положения, что если ты говоришь по-шведски, то ты не финн. А в Литве, если ты говоришь по-польски, то ты не литовец. Литовец должен только говорить и писать по-литовски. Поэтому меня считают польским, а не литовским поэтом. Детской болезнью национализма приходится переболеть всякой становящейся на ноги нации. Опасно, когда она затягивается...

Но не менее опасно, когда затягивается, превращается в проблему само проявление национального духа как стремления к своей государственности, к своей национальной культуре.

**— Вы немало писали о националистической опасности в посткоммунистический период. Польша сумела ее избежать?**

— Считаю этот несомненный факт нашим величайшим достижением. И вижу здесь большую заслугу Гедройца, который на протяжении десятков лет на страницах «Культуры» раскрывал полякам необходимость добрососедских отношений с украинцами, белорусами, литовцами.

**— А вот сербы пошли, что называется, другим путем... Кстати, вы ведь член Сербской Академии наук.**

— Да, они выбрали меня в восьмидесятые годы, когда издали одну из моих книг. И очень быстро возмечтали о Великой Сербии. Причем главными мечтателями выступили самые главные коммунисты. Между прочим, в *Internet* меня путают со Слободаном Милошевичем. Запрос «Милош» может выдать в числе прочего грозный заголовок, вроде того, что «Сербия говорит нет!» Национальная волна может накрыть с головой...

**— У нас в белорусской публицистике есть разные подходы... Одни утверждают необходимость развития националистического начала как способа единения нации, другие предупреждают об опасности раздувания антирусских, антироссийских настроений, считая, что именно такая позиция во многом привела к расколу общества, способствовала поражению Пазьняка и приходу к власти Лукашенко. Спорят о самом понятии национализма — прогрессивного, исторически оправданного и какого-то другого, «нехорошего»...**

— Я не верю в исторический детерминизм. Национальные крайности вовсе необязательны для процесса образования гражданского и одновременно национально окрашенного общества. Белорусская же проблема чрезвычайно сложна, но, мне кажется, я ее хорошо понимаю. Безусловно, всякая нация должна вырастать из своего прошлого, из своей истории. Идти от своих святынь, наконец. А историческое самосознание у белорусов чрезвычайно ослаблено. Между тем историческая память — главнейший элемент в деле образования нации. Вот у украинцев есть историческая память. Украинские дворяне, аристократы говорили по-польски. Но тем не менее от своей, от украинской истории не отказались.

Сегодня, на мой взгляд, для белорусов чрезвычайно важно найти свое прошлое. Мы же знаем, что Литовский Статут был написан на старобелорусском языке. А если историческая память ограничивается только советским периодом, то отсюда и соответствующие общественные настроения.

**— Но если народ оказался в силу известных причин отсеченным от своих исторических корней, то на какой основе сегодня может происходить этот возврат к осознанию собственного прошлого, приобщения к нему?**

— Я уверен, что сегодня не только в Беларуси, но и в других странах газеты, журналы, телевидение, литература, искусство нуждаются в новых темах. А где их брать, если не в прошлом? Мир действительно перевернулся на наших глазах. Он стал другим. Нам нужно понять его. А сделать это можно, если тянуть ниточку из прошлого.

**— Но ведь воспитующая, учительная роль литературы как будто ушла... Торжествуют эротика, приключения, фантастика. Литература теперь больше средство досуга, развлечения.... Об этом свидетельствуют катастрофически упавшие тиражи некогда популярных у нас «толстых» журналов.**

— То же самое происходит и в Польше. И в других странах... Литература уходит. Один из последних сборников моих эссе я назвал «Жизнь на островах». Почему острова? Это из моего американского опыта. Я ведь много лет жил в Америке, был профессором в Калифорнии. Острова — это университеты. Они и есть острова культуры, которые сохранят ее для будущих поколений.

**— Следовательно, к литературе уже не вернется та роль, которую она играла в девятнадцатом, в первой половине двадцатого веков, когда люди в книгах великих писателей искали ответы на вопросы о смысле жизни, искали нравственной поддержки?**

— Педагогический смысл литературы мне действительно кажется утраченным. Зато возрастет эстетический момент. И, безусловно, познавательный.

История Беларуси, история Великого княжества Литовского — это неиссякаемый источник сюжетов, богатых и в эстетическом, и в познавательном плане. Вы еще как следует и не брались за это дело. Сколько было тогда героев, а еще больше — сумасбродов, оригиналов! Но если серьезно — это ведь очень важно рассказать, как было дело с унией в Крево, с Люблинской унией. А исторические фигуры Ягайлы, Витовта — они ведь еще очень далеки не только по времени от сегодняшних белорусов.

**— Но как пробиться к читателю, завлечь его? Вы отдали немалую дань постмодернизму...**

— Да, было такое... Я брал сюжеты из разных исторических эпох, пользовался разными стилями, приспосабливая и меняя их на свой манер. У постмодернизма немало выразительных достоинств. Но есть и существенный недостаток: уж очень сильно подрывается понятие правды. Сбылось предвидение Ницше, утверждавшего, что европейский нигилизм прежде всего уничтожит понятие правды. Мы чересчур задержались на этом небезопасном пути.

**— Когда-то Вы пообещали, что мир доживет до двухтысячного года. Ждать осталось недолго... А к чему же мы все-таки идем — к царству духа или миру роботов?**

— Думаю, и к тому и к другому. Более оптимистично я смотрю на будущее религии в двадцать первом веке. Меня, к примеру, очень интересует предстоящая встреча буддизма и христианства. Очевидно, что в так называемое Новое Время расплодилось много всякой чепухи, но с точки зрения развития мирового сообщества сегодняшний день уникален. Хотя и подтверждает старую истину, высказанную еще Гераклитом...

СВАБОДА
23 верасня 1997 г., № 105

## Табак – убийца европейцев

**Ученые признали табак одним из главных убийц европейцев, пишет американская газета *Sun Herald*.**

По их прогнозам, за период с 1950 к 2000 году число умерших от рака легких в Европе приблизится к двадцати миллионам человек. Только в прошлом году число умерших от этой болезни в странах Европейского Союза составило более 500 тысяч человек. В связи с этим ученые намерены начать собственную антиникотиновую кампанию, а также надеются добиться запрещения рекламирования всей табачной продукции в странах Европы, пишет *Sun Herald*.

## Радиопрограмма с субтитрами

**Японская фирма *Sharp* выпустила карманный приемник с дисплеем, на котором помещаются четыре строчки постоянно обновляемых новостей и прогноза погоды.**

Они сменяются на экране независимо от того, на какую программу настроен приемник. При прослушивании музыкальных передач объем новостей сокращается до двух строчек, а на остальных двух отображается название музыкального произведения или песни. В памяти радиоприемника может храниться до 30 страниц текста.

Пока приемник продается только в Японии — только там налажена передача вместе с обычными радиопрограммами закодированного текста.

## Сотовый телефон по дешевке

**Сотовая телефонная связь — это удобно, но дороговато. Поэтому в Америке наладили удешевленную «аварийную» сотовую связь и стали выпускать специальные телефоны для нее.**

Фирма «Комтрейд Индастриз» исходила из того, что среднему абоненту телефон, не связанный с проводами и доступный в любом месте, может пригодиться довольно редко — в каких-то чрезвычайных случаях. Для обычных звонков люди предпочитают пользоваться традиционным проводным телефоном, сидя в комфортных условиях дома или в офисе. Поэтому дешевый сотовый телефон не имеет кнопок с цифрами для набора номеров. Есть только три кнопки: для вызова «службы спасения 911», для вызова автомеханика (на случай поломки автомобиля в пути), а третья кнопка позволяет связаться с телефонисткой и через нее вызвать любой номер в мире — но последняя услуга уже оплачивается по полному прейскуранту. Позвонить на такой сотовый телефон «со стороны» невозможно, что тоже устраивает многих его абонентов.

## На плаву в снежной лавине

**Около ста человек гибнет ежегодно в Альпах из-за снежных лавин. Немецкий предприниматель Петер Ашауэр предложил новое спасательное средство — надувной мешок.**

На спине лыжника укрепляется небольшой рюкзачок с баллоном сжатого азота и сложенным надувным мешком из ярко-оранжевого нейлона. При попадании в лавину лыжник дергает за шнур, и через две секунды за его спиной вырастает «подушка» объемом 150 литров. Она не дает человеку погрузиться в поток снега, держит его на поверхности. Яркий цвет мешка облегчает спасателям поиск.

Новинка испытывалась прошлой зимой в Альпах. В лавину попали 11 лыжников с надувными мешками. У двух мешки по какой-то неисправности не раскрылись, и люди были засыпаны снегом, но их все же удалось спасти. Из остальных девяти человек шесть действительно остались на поверхности, трое были частично засыпаны, но «поплавки» выглядывали из снега, и их смогли быстро обнаружить.

## Миф о чистом электромобиле

**Обычно, говоря о преимуществах электромобиля, на первое место ставят его экологическую безвредность по сравнению с обычными бензиновыми или дизельными машинами.**

Однако, согласно убедительным расчетам, выполненным бельгийским инженером Кристианом Стеффенсом, загрязненные атмосферы от электромобиля будет не меньше, чем от обычного.

Если в автомобиле с двигателем внутреннего сгорания при прямом превращении энергии ископаемого жидкого топлива в механическую получается КПД 25—30%, то в случае с электромобилем потерь гораздо больше.

Сначала нефть или уголь сжигают на тепловой электростанции. КПД ее турбин — около 40%. Генератор преобразует энергию вращения турбины в электрическую — КПД 95%. Трансформаторные подстанции и линии электропередачи доносят эту энергию до станции зарядки аккумуляторов, потеряв по дороге еще 10%. В итоге до станции подзарядки аккумулятора доходит 34% энергии.

Но аккумуляторы отдадут электромоторам автомобиля лишь 70% энергии, полученной при зарядке. Таков же КПД использования этой энергии самим электромобилем. Чтобы узнать, сколько энергии дошло от нефти, сожженной на ТЭЦ, до движущегося электромобиля, умножим 0,34 на 0,7 и еще раз на 0,7. Получим 0,17, то есть 17%. Это значит, что в итоге электромобиль потребит на 60% больше ископаемого топлива, чем обычный автомобиль с дизельным двигателем.

## Хорошо сидит тот, кто сидит мало

**В развитых странах около 80 процентов трудящихся так или иначе занимаются переработкой информации (в широком смысле слова в эту категорию попадают даже кассирши в супермаркетах). И делают они это, как правило, сидя.**

По мнению специалистов, правильнее всего сидит тот, кто сидит поменьше. Для предотвращения болезней позвоночника врачи рекомендуют проводить половину рабочего времени сидя, четверть — стоя и еще четверть — в ходьбе: будь то внешне бесцельная ходьба по коридорам (многим на ходу лучше думается) или разноска своих материалов по кабинетам начальства и коллег (вместо того, чтобы одним нажатием клавиши компьютера отправить документы по локальной сети). Многие «сидячие» работы можно выполнять стоя: разговаривать по телефону, принимать краткие деловые визиты, читать, диктовать. Недаром в прошлом веке были популярны конторки — нечто вроде кафедры или стола для письма стоя.

На выставке, проходившей осенью прошлого года в Кельне, 920 производителей из 35 стран показали офисную «правильную» мебель. Например, можно было увидеть кресла, при необходимости массирующие спину сидящего. В США разработано кресло, которое по весу и манере сидеть узнает своего хозяина, замечает, если он напряжен, и приятным синтезированным голосом предлагает размять спину.

Современные конторские кресла имеют такие широкие возможности регулировки, что в них немудрено запутаться. Поэтому на выставке успехом пользовалась компьютерная программа, которая по данным о росте, длине рук и другим особенностям телосложения сотрудника советует какое именно кресло следует подобрать.

## Сам себе окулист

**Джон Силвер, профессор физики в Оксфорде, изобрел очки, оптическую силу которых может регулировать сам пациент.**

Принцип чрезвычайно прост: в гибкие линзы из прозрачного пластика впрыскивается шприцем чистая вода — столько, сколько нужно, чтобы зрение улучшилось. Такие очки очень дешевы (стоят всего пару долларов), их не нужно подбирать у окулиста, поэтому Силвер уверен, что они найдут широкое применение в развивающихся странах, где нет врачей, а люди бедны.



*Новые водяные очки профессор Сильвер не только демонстрирует, но и с удовольствием носит сам.*

## Готовь денежки на встречу нового века

**На Эйфелевой башне в Париже огромное электронное табло отсчитывает дни, оставшиеся до начала нового века и третьего тысячелетия.**

И хотя до юбилейной новогодней ночи еще более 800 дней, кое-кто уже заботится о том, чтобы на праздничном столе были достойные этого исторического события напитки. Например, шампанское «Дом Периньон» урожая 1993 года по цене почти 3 тыс. долларов за бутылку. Несмотря на отпугивающую даже небедных французов и иностранцев цену, лишь 1993 счастливчика смогут стать — или уже стали — обладателями заветного игристого из знаменитых погребов: именно столько бутылок предназначено для продажи.

Заблаговременно заказывают столики и в самом роскошном ресторане мира «Луи XV» в отеле «Пари» в Монте-Карло (Княжество Монако). Здесь кудесник кастрюли и сковороды Ален Дюкасс, самый дорогой повар на планете, готовит изысканные блюда для мультимиллионеров и королевских особ. Средняя цена каждого произведения кулинарного искусства — около 600 долларов. И от желающих нет отбоя.

## Чтобы не целовались

**В Малайзии правительство штата Келантан запретило выключать свет в кинотеатрах во время сеанса.**

Фундаменталисты убеждены, что темнота во время киносеансов развращает исламскую молодежь и побуждает ее совершать непристойности, например, целоваться или жевать жвачку. Интересно, что целоваться в общественных местах в Келантане строго запрещено. Штраф за поцелуй в неположенном месте равняется приблизительно 70-ти американским долларам.

*По материалам зарубежной прессы подготовил*
**Даник СОБОЛЕВСКИЙ**

СВАБОДА
23 верасня 1997 г., № 105

# «Вучэбная аварыя» на Ігналінскай АЭС

**На мінулым тыдні ў Цэнтральным раёне Мінска можна было пачуць, як раўла сірэна. Нічога страшнага не адбылося — проста праводзіліся комплексныя вучэнні па грамадзянскай абароне.**

Падчас вучэнняў, што праходзілі з 17 па 19 верасня, ставілася мэта адпрацаваць тэхніку па выратаванні людзей у выпадку радыяцыйнай небяспекі. Як паведамілі карэспандэнту СВАБОДЫ ў штабе грамадзянскай абароны Мінска, пры правядзенні вучэнняў была змадэляваная сітуацыя аварыі на Ігналінскай АЭС, што знаходзіцца ў Літве на самай мяжы з Беларуссю. Нагадаем: Ігналінская АЭС пабудаваная па такім жа праекце, што і Чарнобыльская.

**А.В.**



*Так дзяўчат вучылі «змагацца з радыяцыяй».*

# «Магілёўскую даўніну» разбіраюць

**У Магілёве выйшла кніга «Магілёўская даўніна ў пытаннях і адказах».**

Гэта першае падобнае выданне, якое папулярна распавядае пра вялікую гісторыю горада на Дняпры. Кніга, прысвечаная 730-годдзю заснавання Магілёва, выйшла па-беларуску, у ёй закранаюцца нават тыя «спрэчныя» пытанні, якія не стасуюцца з афіцыйным поглядам на гісторыяграфію і беларуска-расійскія дачыненні.

Кніга мае такую вялікую папулярнасць сярод аматараў беларускай мінуўшчыны і краязнаўства, што амаль увесь наклад разышоўся ў першыя дні, калі праца пабачыла свет.

**Іван ЗАСАДА**

# Міліцыянтаў не караюць

**Двое ўчастковых міліцыянтаў былі звольненыя за збіццё чалавека ў Цэнтральным раёне Магілёва.**

Аднойчы ўвечары гэтыя міліцыянты нападпітку прычапіліся да падлетка — за тое, што ягоны сабака быў без намордніка. Яны запатрабавалі ад хлопца паўтара мільёна рублёў. Калі ж на дапамогу прыйшлі бацька і ягоны сябр, міліцыянты пачалі выкарыстоўваць гумавыя дубінкі і біць нагамі сваіх «апанентаў». У выніку адзін з іх апынуўся ў бальніцы з адбітымі ныркамі і пакалечанай нагой.

Выпадак, калі міліцыянты адказваюць за свае ўчынкі, — вялікая рэдкасць. За апошнія два месяцы ў Магілёве былі яшчэ прынамсі тры выпадкі, калі міліцыя выконвала свае абавязкі вельмі дзіўна. Так, амонаўцы затрымалі без тлумачэнняў аднаго хлопца, заламалі яму рукі, абражалі, завалаклі ў пастарунак, пратрымалі там гадзіну, пакуль не з'явіўся дзяжурны афіцэр, які адпусціў хлопца.

У другім выпадку нарад «памыліўся», калі завёз цвярозага чалавека ў выцвярэзнік. Пачалося разбіральніцтва, але ў хуткім часе пацярпелы напісаў заяву, што міліцыя паступіла з ім... правільна. Можна сабе ўявіць, як дамагаліся такой заявы.

І, нарэшце, міліцэйскі нарад увечары затрымаў сямейную пару, што выходзіла з рэстарана «Магілёў». Муж і жонка трое сутак адседзелі ў камеры, пакуль сваякі не знайшлі «заступніка».

Выпадкі розныя, але ва ўсіх трох вынік аднолькавы — людзі пацярпелі, а ніводзін з міліцыянтаў не атрымаў за гэта хаця б сімвалічнага пакарання.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Салдата забілі саслужыўцы

**У воінскай часці, што знаходзіцца ў Сцяпянцы пад Мінскам, загінуў салдат тэрміновай службы Алег Лаечка, жыхар горада Кобрын.**

Не ваенныя дзеянні і нават не няшчасны выпадак сталі прычынай смерці маладога хлопца, які праслужыў пасля прызыву ўсяго некалькі месяцаў: Алега забілі саслужыўцы. Абставіны здарэння высвятляе следства. Пад падазрэннем знаходзяцца трое салдат, прызыўнікі з Гродзенскай вобласці, яны арыштаваныя.

Днямі адбылося пахаванне забітага; усе расходы на сябе ўзяло ваеннае ведамства.

*БелаПАН*

# Даты і лёсы

## 23 верасня

**1846.** Нямецкі астраном Еган Гале адкрыў планету Нептун.

**1920.** На мірных перамовах у Рызе Расія прапанавала Польшчы адкінуць пытанні самавызначэння беларусаў і ўкраінцаў і засяродзіцца на вызначэнні ўсходняй мяжы Польшчы — прычым на ўсход значна далей, чым разлічвалі палякі. Гэта і прадвызначыла хуткі поспех перамоваў.

**1932.** Нарадзіўся знакаміты джазавы спявак, сляпы ад шасцігадовага ўзросту Рэй Чарльз.

**1939.** У Лондане памёр заснавальнік псіхааналізу Зігмунд Фройд, які эміграваў у Англію пасля гітлераўскага аншлюсу ягонай роднай Аўстрыі ў 1938 г. Дарэчы, продкі Фройда паходзілі з ВКЛ.

**1943.** Праз два месяцы пасля звяржэння фашысцкага ўрада Мусаліні і роспуску ягонай партыі былы дучэ стварыў з дапамогай немцаў на поўначы Італіі неафашысцкую «Сацыяльную рэспубліку» («рэспубліку Сало»). Італьянскі рэжысёр Пазаліні зняў на гэтую тэму фільм «Сало, або 120 дзён Садому».

## 24 верасня

**1852.** У небе над Версалем адбыўся палёт спраектаванага Анры Жыфарам лаветранага шара з паравым рухавіком сілай у 3 коні. Гэта быў першы шар, абалонка якога была напоўненая вадародам.

**1920.** У Мінску адкрыўся першы Агульнабеларускі з'езд камсамолу. У той час камсамольцаў у Беларусі было каля 3 тысяч.

**1950.** Прэзідэнт ЗША Трумэн звольніў ваеннага міністра Льюіса Джонсана, у якога з'явіліся яўныя прыкметы псіхічнага захворвання. Трохі пазней былому шэфу Пентагона была зробленая аперацыя на мозгу. Папярэднік Джонсана на пасадзе міністра Дэймс Форэстал дык увогуле з'ехаў з глузду на глебе савецкай ваеннай пагрозы. Яго злавілі на вашынгтонскай вуліцы, дзе ён палохаў мінакоў крыкамі: «Рускія ідуць! Яны тут! Я бачыў рускіх салдат!» У сакавіку 1949 г. ён выкінуўся з 16-га паверха вайсковага шпіталя.

**1955.** Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР зацвердзіў тэкст і музыку Дзяржаўнага гімна Беларускай ССР (тэкст Міхася Клімковіча, музыка Нестара Сакалоўскага): «Мы, беларусы, з братняю Руссю...»

**1960.** У Ньюпарце, штат Вірджынія, быў спушчаны на ваду першы ў свеце атамны авіяносец *Enterprise*.

**1980.** Памежныя сутычкі паміж Іракам ды Іранам перараслі ў шырокамаштабную вайну, калі іракцы ўзарвалі нафтаперапрацоўчы завод у Абадане.

## 25 верасня

**1919.** Анархісты і левыя эсеры ўзарвалі бомбу ў будынку Маскоўскага гаркаму РКП(б), дзе ў гэты час адбывалася нарада партыйнага актыву Масквы і павінен быў прысутнічаць Ленін. Загінулі 12 бальшавікоў.

**1921.** Рада БНР склкала ў Празе Першую Беларускую нацыянальна-палітычную нараду. У адной з рэзалюцыяў было адзначана, што «найяскравым момантам у чатырохгадовым змаганні беларускага народа з'яўлялася Слуцкае паўстанне, калі беларусы, змагаючыся за сваю незалежнасць пад лозунгам «Ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камуністаў», былі пераможаныя больш значнымі сіламі абодвух бакоў».

**1926.** На сходзе Мінскай гарадской партарганізацыі першы сакратар ЦК КП(б)Б Арон Крыніцкі зрабіў даклад «Аб чарговых пытаннях нацыянальнай палітыкі КП(б)Б», дзе адзначыў, што партыя павінна ўзначаліць беларусізацыю і ўвогуле трымаць пад кантролем культурнае будаўніцтва ў БССР, бо інакш «кіруючую ролю ў культуры можа захапіць нацыянал-дэмакратычнае, контррэвалюцыйнае крыло інтэлігенцыі».

**1932.** Каталонія дамаглася аўтаноміі ў межах Іспаніі: яна атрымала права мець уласныя парламент, сцяг і дзяржаўную мову.

**1949.** ТАСС паведаміў пра выпрабаванне першай савецкай атамнай бомбы з плутонія-239, якое адбылося яшчэ 29 жніўня.

**1952.** Нарадзіліся два амерыканскія кінаакцёры, героі якіх вельмі спрытна лётаюць па экране: Марк Хэміл, які зняўся ў ролі галантнага Люка Скайўокера («Зорныя войны», 1977) і Крыстафер Рыў — выканаўца ролі Супермэна ў аднайменным фільме (1978).

**1987.** Нігерыйскі суд прыгаварыў да пажыццёвага зняволення пастуха, які адсёк сваёй 12-гадовай(!) жонцы ногі за тое, што яна спрабавала ўцячы ад яго.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

СПОРТ

# Недакормленае «Дынама»

### ФУТБОЛ: ВОСЕНЬСКАЯ ЛІХАМАНКА

Варта было мінскім дынамаўцам у 19-м туры нацыянальнага чэмпіянату скараціць адставанне ад лідэраў да трох ачкоў, як у 20-м усё вярнулася на ранейшыя месцы. Мінчукі нечакана згулялі ў Магілёве ўнічыю з «Трансмашам», а бабруйская «Белшына» пасля трох няўдачаў запар (разам з матчам на Кубак Кубкаў) усё ж вырвала свае 3 ачкі, прычым там жа, у Магілёве, выйграўшы ў мясцовага «Тарпеда-Кадзіна» з хакейным лікам 4:3. Толькі другое ачко ў апошніх трох турах набрала «Дынама-93». Відаць, у дынамаўскіх няўдач прычына матэрыяльная: футбалісты ЗАТ ФК «Дынама» ўжо некалькі месяцаў не атрымліваюць кантрактных прэміяльных.

Зноў прыемна здзівілі заўзятараў брэсцкія дынамаўцы: гэтым разам яны абыгралі «Нафтан-Дэвон», які да сустрэчы з берасцейцамі чатыры разы запар перамагаў. І, нарэшце, леташні чэмпіён — МВКЦ — саступіў дзёрзкім навічкам са Слоніма. Ліхаманка трасе нашую эліту! Затое першую перамогу атрымаў салігорскі «Шахцёр». Наперадзе яшчэ трэць чэмпіянату.

*«Тарпеда-Кадзіна»—«Белшына» — 3:4. «Трансмаш»—«Дынама» (Мінск) —1:1. «Тарпеда»—«Лакаматыў-96» — 0:1. «Нёман»—«Дынама-93» — 0:0. «Камунальнік»—МВКЦ — 1:0. «Дынама» (Брэст)—«Нафтан-Дэвон» — 2:0. «Днепр»—«Маладзечна» — 3:1. «Шахцёр»—«Атака» — 1:0.*

Пасля 20 тураў

| | | |
|---|---|---|
| 1. «Белшына» (Бабруйск) | 52–22 | 50 |
| 2. «Дынама» (Мінск) | 50–12 | 45 |
| 3. «Лакаматыў-96» (Віцебск) | 29–20 | 42 |
| 4. «Дынама-93» (Мінск) | 46–19 | 41 |
| 5. МВКЦ (Мазыр) | 34–18 | 36 |
| 6. «Днепр» (Магілёў) | 36–24 | 34 |
| 7. «Нафтан-Дэвон» (Наваполацк) | 26–15 | 29 |
| 8. «Дынама» (Брэст) | 27–32 | 28 |
| 9. «Тарпеда» (Мінск) | 26–29 | 24 |
| 10. «Камунальнік» (Слонім) | 22–37 | 24 |
| 11. «Атака» (Мінск) | 20–31 | 21 |
| 12. «Маладзечна» | 20–33 | 18 |
| 13. «Нёман» (Гродна) | 18–32 | 17 |
| 14. «Тарпеда-Кадзіна» (Магілёў) | 23–53 | 16 |
| 15. «Трансмаш» (Магілёў) | 19–40 | 15 |
| 16. «Шахцёр» (Салігорск) | 11–42 | 8 |

### УКРАІНА ПРАЦЯГВАЕ НАСТУПАЦЬ

У 1/16 фінала Кубка Кубкаў бабруйская «Белшына» прымала ў Мінску маскоўскі «Лакаматыў». Масквічы валодалі мячом і гульнёвай ініцыятывай большую частку матча. Нягледзячы на прапушчаны на пачатку гол (Хлебасолаў — з пенальці) госці ў другім тайме пераламілі ход барацьбы на сваю карысць — 2:1.

Следам за кіеўскімі дынамаўцамі здзівілі Еўропу і футбалісты данецкага «Шахцёра», выйграўшы ў гасцях у партугальскай «Баавішты» — 3:2. Іншыя клубы былога СССР прайгралі з буйным лікам: АЕК (Грэцыя) — «Дынабург» (Латвія) — 5:0, «Капенгаген» (Данія) — «Арарат» (Арменія) — 3:0.

У Егіпце скончыўся чэмпіянат свету сярод юнакоў да 17 год. У фінале Бразілія перамагла Гану — 2:1, а ў матчы за 3-е месца юныя іспанцы з такім жа лікам выйгралі ў немцаў.

### ХАКЕЙ: ЧЭМПІЯНАТ У.Е.Х.Л.

Узяў старт 3-ці чэмпіянат Усходне-Еўрапейскай хакейнай лігі, у якой гуляюць хакеісты Беларусі, Украіны, Латвіі і Літвы.

Нагадаем, што ў першых турнірах пераможцамі сталі гродзенскі «Нёман» і рыжскі «Юніёрс». Пакуль што на чале табліцы сталі двухразовыя чэмпіёны Беларусі хакеісты наваполацкага «Палімі-ра» (8 ачкоў пасля 4-х матчаў) і мінская каманда «Юнацтва» (6 пасля 4-х матчаў).

### ФОРМУЛА-1: ШУМАХЕР І ВІЛЬНЁЎ — ЯК НА АРЭЛЯХ

Пасля драматычных калізій Жак Вільнёў з каманды «Уільямс»—«Рэно» заваяваў «Гран-Пры» Аўстрыі і за тры этапы да заканчэння чэмпіянату свету скараціў адрыў лідэра Міхаэля Шумахера («Ферары») да 1 ачка. Гэтае ачко Міхаэль атрымаў за 6-е месца, абышоўшы на апошнім крузе леташняга чэмпіёна англічаніна Дэймана Хіла («Эроўз»). Дарэчы, у новым сезоне Хіл будзе выступаць за «Джордан»—«Пежо».

А прызёрамі этапу сталі разам з Вільнёвам шатландзец Дэвід Култхард («Макларэн»—«Мерседэс») і немец Хайнц-Харальд Фрэнтцэн («Уільямс»—«Рэно»). У агульным заліку сітуацыя наступная: *1. М.Шумахер — 68 ачкоў. 2. Ж.Вільнёў — 67. 3. Х.-Х. Фрэнтцэн — 31. 4. Д.Култхард — 30. 5. Ж.Алезі — 28. 6. Г.Бергер (абодва — «Бенетон»—«Рэно») — 21.*

### ТЭНІС: ЧЭМПІЯНАТ БЕЗ САМЫХ МОЦНЫХ

Марына Стэц у дзевяты раз стала чэмпіёнкай Беларусі, перадолеўшы ў фінале ўпартае супраціўленне юнай Наташы Студзёнай — 7:5, 6:4. У парным разрадзе перамаглі Вера Жукавец і Яна Сакаленка.

Адсутнасць на турніры спартсменак сусветнага ўзроўню Наташы Зверавай і Вольгі Барабаншчыкавай зусім апраўданая — яны маюць напружаны графік выступленняў на міжнародных турнірах. А вось дзе Вольга Глушчанка і Надзея Астроўская — галоўныя надзеі нашага тэнісу? Чвэрцьфіналістка адкрытага чэмпіянату ЗША сярод юніёраў Таццяна Пучак свой удзел толькі абазначыла, аддаўшы без барацьбы матч Антаніне Грыб — 0:6, 0:6. Ёсць пра што падумаць...

**Сямён ПЛОЦ**





© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (першы завод — 32.470)
Нумар падпісаны ў друк 22.09.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 356